*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 51 (539) 26 СНЕЖНЯ 2001 г.

# З Новым 2002 годам!

*НАВАГОДНІ ДАРУНАК*

## ГАДЫ Ў РАДЫ...

На сыходзе дзве тысячы першы год. Пра гэта нам нагадваюць радыё і тэлевізія, друк ды шмат што іншае. Сыходны год яны называюць "адыходзячым". Але мне штосьці даўно не смакуе такое азначэнне, яго гукавое спалучэнне – а-ды-хо-дзя-чы. Мовіш такое слова, а адчуванне, нібы язык па карчах цвыгае ці сухую анучу жуе. Чую не адзін год гэтае "адыходзячы", адчуваў і адчуваю моўны дыскамфорт. Слова рэзала і рэжа слых. І найперш сваім суфіксам –ячы. Адчуваю,, нават прыстаўка "ад" абцяжарвае слова, робіць яго груватска шорсткім, аж язык дзярэ. Не адзін год ламаў галаву: як гэта пакруціцца ля гэтага слова, абчасаць яго, падладзіць, каб яно гучала больш натуральна, проста, меладыйна, неабцяжарна? Было зразумела адно: "адыходзячы" – чыстая калька з расійскага адпведніка "уходящий". Ну, добра, скажыце вы: не задавальняе "адыходзячы". То як яшчэ? Як інакш?

І от аднаго разу падумаў: "А што калі замест "адыходзячага" году практыкаваць "сыходны год". Прыкладам: "У сыходным 2001-годзе Беларусь мела шанец праз выбары змяніць лёс сваёй краіны...".

Сыходны год – гэта год, які сыходзіць, сходзіць у нябыт. Як мне падаецца, гэта проста і натуральна. Ну, а што проста і натуральна, тое кажуць, і геніяльна. У нашай мове з азначэннямі да слова "год" непарадак не толькі з спалучэннем "адыходзячы год". Наш друк, радыё ды тэлевізія яшчэ скрозь практыкуюць "надыходзячы год", "бягучы год". Зноў чыстая калька. Параўнаем: "наступающий год" – "надыходзячы", "текущий год" – "бягучы год". А наша ж мова для расейскага спалучэння : "текущий год" мае аж цэлыя тры адпаведнікі – "сёлетні год", "сёлета", "у гэтым годзе". А надыходзячы год мог стаць у нас надыходным. Будучы -- наступным!

Братове, вызвалім жа нашу мову ў новым годзе ад гэтых "бягучых" ды "адыходзячых гадоў", зробім нашай мове хоць маленькую палёгку!

Хай гэта будзе ёй наш сціплы навагодні дарунак!

*Уладзімір Содаль.*

## Сустрэча з амбасадарам АБСЕ

13 снежня 2001 г. кіраўніцтва ТБМ на чале са старшынём Алегам Трусавым сустрэлася са сп. Др. Хансам Георгам Вікам, кіраўніком групы АБСЕ ў Беларусі.

На сустрэчы было абмеркавана сучаснае становішча беларускай мовы ў нашай краіне ва ўсіх сферах грамадскага і палітычнага жыцця.

Прадстаўнікі ТБМ паднялі пытанне аб стварэнні з дапамогай АБСЕ беларускамоўнага незалежнага спадарожнікавага тэлеканала, а таксама беларускамоўных перадач на радыё "Бі-Бі-Сі" і "Нямецкая хваля".

Спадар Вік адзначыў актыўную дзейнасць ТБМ падчас апошніх выбараў, выказаўся пра здольнасць весці канструктыўны дыялог з уладамі і прасоўванне асобных беларускамоўных ініцыятываў за межы краіны. Ён засведчыў, што аб'яднаная Еўропа ў XXI стагоддзі застанецца шматмоўнай, дзе кожная мова, нават самая маленькая, будзе мець магчымасць для свайго развіцця.

Амбасадар параіў падрыхтаваць некалькі аўдыяперадач і відэафільмаў пра гісторыю беларускай мовы і культуры і перадаць іх на тэлеканалы суседніх краін з мэтай прапаганды Беларушчыны.

Сустрэча прайшла ў цёплай, прыязнай атмасферы і доўжылася каля гадзіны.

*Наш карэспандэнт.*

## З Новым годам, дарагія калегі

**Рэдакцыя газеты "Наша слова" шчыра віншуе з Калядамі і Новым 2002 годам Беларускую асацыяцыю журналістаў, Фонд падтрымкі і развіцця рэгіянальнай прэсы, выдаўцоў, рэдактараў, журналістаў і супрацоўнікаў усіх дэмакратычных газет, часопісаў і радыёстанцый.**
**Мы спадзяёмся што нашая сумесная праца на карысць праўды і аб'ектыўнасці станецца і рэальнай працай на карысць дэмакратычнай і незалежнай Беларусі.**

## Шаноўныя чытачы паважанай газеты "Наша слова"!

Шчыра і сардэчна віншую Вас, Вашых родных і блізкіх з Новым 2002 годам, Калядамі і Нараджэннем Хрыстовым.

Зычу шчасця, людскога жыцця і надзей на тое, што Бацькаўшчына наша Беларусь некалі ж будзе і заможнай, і вольнай, і незалежнай, а дзеці і ўнукі нашы стануць здаровымі, заможнымі і шчаслівымі.

Рады падзяліцца з чытачамі "Нашага слова накаледаваным мною перад прыйшоўшым 2002 годам. У кайстры маёй, сярод іншага, аж пяць гістарычных п'ес. Перадаю іх Вам праз Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

Пры добрым збегу абставін для газеты, вы будзеце мець магчымасць пазнаёміцца з з драмамі і трагедыямі, што ахопліваюць час пакут і барацьбы нашага люду паспалітага за волю і незалежнасць з 50-х гадоў XVIII стагоддзя да 20-х гадоў XX стагоддзя. Сярод іх: "Час усё адкрые", "Развітанне з Радзімай", "Рыцар Свабоды", "Апошні збройны чан" і "Канец радаводу".

Сябар рэдкалегіі "Нашага слова",
*Ваш Алесь Петрашкевіч.*

Запрашаем на вечарыну – прэзентацыю кнігі Міхася Скоблы

**"НАШЭСЬЦЕ ПОЎНІ"**

У вечарыне бяруць удзел:

| | |
|---|---|
| Рыгор Барадулін | Віктар Шніп |
| Анатоль Вярцінскі | Антаніна Хатэнка |
| Леанід Галубовіч | Эдуард Акулін |
| Рыгор Сітніца | Алесь Камоцкі |
| Людміла Рублеўская | Зміцер Сідаровіч |

**У перадкалядны вечар з'яднайма душы ў паэтычным сумоўі!**
**Вечарына адбудзецца 27 снежня ў Беларускім гуманітаным ліцэі імя Я. Коласа (вул Кірава, 21). Пачатак а 18. 00.**




*Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны выказвае шчырую падзяку Міністэрству сувязі Рэспублікі Беларусь за поўнае забеспячэнне ўсёй краіны высокаякаснымі і прыгожымі калядымі і навагоднімі паштоўкамі, канвертамі ды маркамі на беларускай мове. Віншуем усіх сувязістаў са святамі і выказваем спадзяванне на плённае супрацоўніцтва ў новым 2002 годзе.*
*Старшыня ТБМ Алег Трусаў.*

Беларуская мова- ТБМ наша будучыня

## Ахвяраванні на ТБМ

1. Атрахімовіч Вячаслаў (Наваполацк) – 2000
2. Форнэль Кастусь (Наваполацк) – 1000
3. Рымша Алесь (Наваполацк) – 3000
4. Касцюк Юрась (Наваполацк) – 1000
5. Мудроў Вінцэсь (Наваполацк) – 1000
6. Була Уладзімір (Наваполацк) – 1000
7. Кунцэвіч Уладзімір (Наваполацк) – 1000
8. Лаўрычонак Пятро (Новаполацк) – 1000
9. Кулік Акароль (Наваполацк) – 1000
10. Фелікс Шкірманкоў (Слаўгарад) – 5000

*г. Мазыр*

11. Піскун Л. А. – 500
12. Піскун У. Ц. – 500
13. Піскун Я. У. – 100
14. Струкаў В. В. – 500
15. Бажэнка Л. М. – 500
16. Качапка В. Б. – 500
17. Пархоменка А. -- 4000
18. Мейлах Я. – 1000
19. Пархоменка Алесь – 50.000

*супольна "Сотвар"*

20. Бандарчык – 500
21. Шляхотка – 500
22. Сапуноў – 500
23. Старавойтаў – 500
24. Міхневіч – 500
25. Чаховіч – 500
26. Турноў – 500

# Кампутарныя праграмы будуць адаптаваныя да беларускай мовы

НАЦЫЯНАЛЬНЫ СХОД РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
**ЧЛЕН САВЕТА РЭСПУБЛІКІ**

НАЦИОНАЛЬНОЕ СОБРАНИЕ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
**ЧЛЕН СОВЕТА РЕСПУБЛИКИ**

07. снежня 2001 г. № 23/40-535-49

**Старшыні грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Трусаву А. А.**

**Аб падтрымцы беларускай мовы ў камп'ютарных праграмах**

Паважаны Алег Анатольевіч!

Разгледзеўшы Вашы прапановы аб падтрымцы беларускай мовы ў камп'ютарных праграмах (ліст ад 05.11.2001 г. № 538), паведамляем наступнае.

Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь у цэлым падтрымлівае Вашы прапановы. У цяперашні час спецыялісты Сакратарыяту Савета Рэспублікі прапрацоўваюць з адпаведнымі арганізацыямі пытанні па вызначэнню саставу такіх работ, іх выканаўцаў і фінансавання. Пасля канчатковага вырашэння гэтых пытанняў Вам будзе прадстаўлена дадатковая інфармацыя.

З павагай
**Старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. Вайтовіч**

РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ
**МІНСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ**
**УПРАЎЛЕННЕ АДУКАЦЫІ**
220050, г. Мінск, вул. Кірава, 5. Тэл. 227-41-38 Тэл./факс 227-77-28

РЕСПУБЛИКА БЕЛАРУСЬ
**МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ**
**УПРАВЛЕНИЕ ОБРАЗОВАНИЯ**
220050, г. Минск, ул. Кирова, 5. Тел.227-41-38 Тел./факс 227-77-28

"07" 12 2001 г. № 6-03/2399
на № 190 ад "21" 11. 2001 г.

**Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны**

Упраўленне адукацыі Мінгарвыканкама на зварот ад 21 лістапада № 190 паведамляе, што ў 2000/2001 навучальным годзе беларускамоўныя класы і школы скончыла 786 выпускнікоў. Інфармацыі аб іх паступленні ў вышэйшыя і сярэднія навучальныя ўстановы ўпраўленне адукацыі не мае, агульны ж працэнт паступлення выпускнікоў г. Мінска ў ВНУ складае 59%.

**Нам. начальніка ўпраўлення Р. В. Махнач**

№ 01-13/1453
ад "22" 11. 2001 г.

**Старшыні Таварыства беларускай мовы Трусаву А. А.**

**Паважаны Алег Анатолевіч!**

У сувязі з Вашай просьбай (ліст ад 22 кастрычніка 2001 года № 525) адказваю, што ў Белтэлерадыёкампаніі існуе рэальнае раўнапраўе дзвюх дзяржаўных моў: беларускай і рускай. Заканадаўча гэта было замацавана, як Вам вядома, пасля рэферэндуму, на якім беларускі народ пераважнай большасцю падтрымаў пазіцыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі па пытанню дзвюхмоўя.

Справаводства ажыццяўляецца на беларускай мове.

Што да пасяджэнняў і нарад, мушу яшчэ раз падкрэсліць: у Белтэлерадыёкампаніі законапаслухмяныя супрацоўнікі і ніхто нікому не забараняе размаўляць, як на беларускай мове, так і на рускай мове.

**Старшыня Белрадыёкампаніі Я. У. Рыбакоў.**

# Свята ў гонар Слуцкіх герояў у Адэлаідзе

Наша Парафія Беларускай Аўтакефальнай Царквы ў Адэлаідзе (Аўстралія) 25.ІІ.2001 г. ушанавала Слуцкіх герояў. Вельмі урачыста была праведзена Богаслужба (літургія), настаяцель парафіі айцец пратаярэй Пятро Касоцкі сказаў чулую пропаведзь, за Слуцкіх герояў, якія "... сталі супраць вялікае сілы, каб здабыць незалежнасць Беларусі". Пасля літургіі адбылася паніхіда за Слуцкіх герояў, у канцы адспявалі царкоўны гімн "Магутны Божа".

Былі прыгожыя два сцягі беларускі і аўстралійскі, якія трымалі былыя айскоўцы.

Па заканчэнню усе перайшлі ў прыцаркоўную залу на агульны абед. Калі ўсе уселіся Старшыня папрафіяльнай рады папрасіў настаяцеля царквы дабраславіць ежу на агульным сталe. Царкоўны хор адспяваў малітвы і айцец пратаярэй Пятро Касацкі дабраславіў ежу. Старшыня папрасіў царкоўны хор адспяваць Беларускі гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", жалобны марш "Спі пад Курганам герояў", і "Ідуць жаўнеры беларусы". Па заканчэнню, была адна хвіліна цішыні. Старшыня прачытаў кароткі рэферат за Слуцкіх герояў. Пачастунак працягваўся 4 гадзіны, усе разышліся у добрым настроі.

Віншую вас са Святамі калядными і зычу шчаслівага Новага 2002 года.
29.ІІ.2001г.

*С пашанаю да Вас Уладзімір Акавіты.*

**22 снежня перад самымі Калядамі памёр слынны руплівец Беларушчыны пробашч каталіцкага касцёла ў Вішневе**

## ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі.

**Праз усё жыццё нёс ксёндз Чарняўскі вернасць беларускай мове, вёў на беларускай мове набажэнствы, пераклаў на беларускую мову "Біблію". Неба душы яго і памяць па ўсёй зямлі Беларускай.**

# З'езд вернікаў

***Саюз Хрысціян Веры Евангельскай ў Беларусі налічвае 758 абшчын. З іх 277 яшчэ незарэгістраваныя. Часам яны сустракаюць супраціў мясцовых уладаў.***

У Менску 6-8 снежня адбыўся IУ з'езд Саюза Хрысціян Веры Евангельскай у Беларусі. У ім удзельнічалі дэлегаты ад розных рэгіёнаў нашай краіны, госці з Літвы, Украіны, ЗША.

Гэта быў форум хрысціян, паяднаных глыбокай верай у Бога. Атмасферу ўзнёсласці ў храме стваралі духоўныя песні. У спевах удзельнікі з'езду выказвалі сваю шчырую падзяку Госпаду за Яго вялікую любоў да людзей. Асноўным стрыжнем гэтага сходу была малітва, якая нібы рэфрэнам гучала на працягу усяго з'езду.

Безумоўна, на ім мелі месца віншаванні, справаздачы і выбары, абмеркаванне надзённых пытанняў жыццядзейнасці Саюза ХВЕ ды іншае.

На вялікі жаль, амаль не чутно было беларускага слова, хаця адчувалася, што вернікі ведаюць мову тытульнай нацыі і з пашанай ставяцца да яе. Пра гэта сведчылі шчымлівыя духоўныя песні, што выконваліся па-беларуску. І мы не сумняваемся, што Саюз ХВЕ будзе надалей спрыяць адраджэнню нашай роднай мовы, бо першыя практычныя крокі ўжо зробленыя: адзін з Менскіх прыходаў ХВЕ перайшоў на беларускую мову. Беларускае слова з'яўляецца і ў часопісе "Благодать".

*Ірына Марачкіна.*

**18 снежня 2001 г.**

**Спадару Сяргею Хомічу Епіскапу Саюза Хрысціян Веры Евангельскай у РБ а/я 104 г. Менск , 220089**

**Вельмішаноўны спадар Епіскап!**

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны шчыра віншуе Вас з абраннем на высокую пасаду Епіскапа. Дай Бог Вам здароўя і плёну ў Вашай духоўнай пастарскай дзейнасці.

Хацелася б каб беларуская мова, родная мова бальшыні Вашых вернікаў, заняла належнае месца ў жыцці Хрысціян Веры Евангельскай.

Калі прамаўляеш да Бога на роднай мове можна атрымаць Яго найбольшую спагаду і дараванне.

З павагай
**Старшыня ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" Алег Трусаў.**

# "Дзень па правах чалавека"

10 снежня адбыўся пікет каля беларускай амбасады ў Вільні ў абарону зніклых людзей у Беларусі. Плакаты з партрэтамі В. Ганчара, Ю. Захаранкі, Дз. Завадскага , з пытаннем: "Дзе патрыёты Беларусі?"

Прысутнічаў на пікеце і выступіў адказны сакратар асацыяцыі Літвы па правах чалавека Стасіс Каўшыніс, старшыня Таварыства Беларускай культуры ў Вільні Хведар Нюнька, літоўскія журналісты.

*Леакадзія Мілаш, г. Вільня.*



У Віцебску пабываў пасол ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Майкл Козак. Ён прыняў удзел у адкрыцці інтарнэт-клуба ў абласной бібліятэцы, наведаў музей Марка Шагала, дзе адбылася ўрачыстая перадача 33 кніг пра Шагала, выдадзеных у розныя гады ў Амерыцы,прысутнічаў на адным з канцэртаў 14 Міжнароднага фестывалю сучаснай харэаграфіі, сустрэўся са студэнтамі дзяржаўнага універсітэта імя П. М. Машэрава.

**На здымку:** Майкл Козак на ўрачыстай перадачы кніг музею Марка Шагала.
**Фота Аляксандра Хітрова, БелТА**



№ 51 (539) 26 СНЕЖНЯ 2001 г. наша СЛОВА

# Справаздача Менскай гарадской Рады ТБМ

Заканчваецца першы год трэцяга тысячагоддзя. Час падводзіць вынікі. Менскай гарадской Радзе ТБМ ёсць што прыгадаць і падсумаваць напярэдадні Новага года.

Значных арганізатарскіх намаганняў запатрабаваў 7 з'езд нашай рэспубліканскай арганізацыі. Хочацца адзначыць студэнцкую моладзь Лігвістычнага універсітэта, Універсітэта культуры, а таксама сяброў суполкі ТБМ Менскага аўтазавода, якія правядзілі рэгістрацыю дэлегатаў з'езду.

Другой важнай падзеяй у жыцці нашай краіны меліся стаць выбары прэзідэнта. Наша грамадская арганізацыя брала чынны ўдзел у правядзенні мабілізацыйнай кампаніі "Выбірай!" Вядома, справа гэта новая, але як падаецца, надзвычай плённая і перспектыўная. Былі арганізаваныя некалькі навучальных семінараў у межах мабілізацыйнай кампаніі, пасля чаго сябры і прыхільнікі гарадскога ТБМ падрыхтавалі творчыя сустрэчы, канцэрты амаль ва ўсіх раёнах горада.

Найбольш запамінальныя: фольк-свята ў Лошыцы, свята яблычнага Спасу ў парку 50-годдзя Кастрычніка, сустрэча з Кастусём Тарасавым у Шчамыслiцкай сярэдняй школе і, вядома ж, сумесныя з БМА акцыі-канцэрты "10 год "Ліцвінам", прэзентацыя СД "Легенды Вялікага княства" і інш. Трэба адзначыць, што вопыт гэтай, мабілізацыйнай кампаніі надзвычай карысны. Бо гэта неацэнны досвед узаемадзеяння з рознымі грамадскімі арганізацыямі, досвед практычнай працы з рознымі сацыяльнымі групамі. Найбольш актыўна праявілі сябе Пятро Русаў, Леанарда Мухіна, Аляксей Галіч, Ігар Яначкін і іншыя сябры Рады.

Падчас 2001 года значная ўвага надавалася вырашэнню пытання адкрыцця беларускамоўнай гімназіі ў г. Менску. Старшыня гарадской Рады разам з прадстаўнікамі Бацькоўскага камітэта неаднаразова сустракаліся з начальнікам упраўлення адукацыі М. С. Цiцянковым, з намеснікам старшыні Менгарвыканкама В. В. Гурыным, прымалі ўдзел у пасяджэнні камісіі Менгарвыканкама па пытаннях культуры, адукацыі і спорту. Падчас гэтых сустрэч разглядалася пытанне аб напаўняльнасці класаў з беларускай мовай навучання. Трэба зазначыць, што гэты прынцып напаўняльнасці не дазваляе ажыццявіць права бацькоў на беларускамоўную адукацыю для дзяцей у шэрагу выпадкаў, калі збіраецца ўсяго некалькі заяў у адной школе. Такім чынам, адказнасць за забяспячэнне гэтага законнага права перакладаецца на плечы саміх бацькоў ці грамадскіх арганізацый, што не адлюстравана ні ў якіх заканадаўчых актах. Аднак ёсць і станоўчы момант у нашых стасунках з гарадскім кіраўніцтвам. 5 верасня 2001 г. Менгарвыканкамам было прынята рашэнне аб адкрыцці ў Менску ў 2002/03 навучальным годзе гімназіі з беларускай мовай навучання. Як вядома на сённяшні дзень, былі ўлічаны нашы шматлікія прапановы, каб гэтая навучальная ўстанова размяшчалася ў цэнтры горада на базе 23-й СШ.

Наогул, мы стараемся ў сваёй дзейнасці абапірацца на настаўнікаў, вучняў, студэнцкую моладзь. Бываючы на жнівеньскіх нарадах, завязваем новыя кантакты, стараемся дапамагчы настаўнікам, асабліва роднай мовы і літаратуры, у іх штодзённай выхаваўчай працы. Так, на працягу 2 месяцаў у 5 школах Маскоўскага раёна па розных паралелях сумесна з Маладым Адраджэннем былі арганізаваныя шоу-вікторыны "Беларушчына". Водгукі вучняў і настаўнікаў вельмі добрыя, уражанні ад мерапрыемства надзвычай прыемныя. Асабліва важным нам падаецца тое, што пра знакавыя падзеі нашай гісторыі ў школьнай аўдыторыі вядуць гутарку маладыя людзі, амаль аднагодкі. Гэта стварае атмасферу большага даверу і кантакту. Акрамя таго, таленавітыя вучні могуць паўдзельнічаць у імпрэзах гарадской арганізацыі ТБМ. У сувязі з гэтым хачу прыгадаць апошнюю вечарыну да 110-гадовага юбілею Максіма Багдановіча, якая адбылася ў Цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы. Самымі актыўнымі ўдзельнікамі выступілі тут гімназісты, ліцэісты і студэнты.

Нельга не сказаць пра адно з самых цяжкіх пытанняў нашага часу. Гаворка ідзе пра лёс Курапатаў. Гарадская арганізацыя ТБМ дэлегавала Маю Кляшторную ў склад камісіі па назіранню. З мэтай прыцягнення ўвагі грамадскасці да гэтай праблемы разам з іншымі грамадскімі дзеячамі была адкрыта выстава твораў вядомых беларускіх мастакоў. Акрамя таго, на рахунак гарадской арганізацыі паступаюць сродкі на ўсталяванне крыжоў.

У гарадской Радзе пастаянна вядзецца вельмі важная праца па ўліку сяброў, суполак і рэгістрацыі раённых арганізацый. Параўнальна нядаўна была зарэгістраваная Рада ТБМ Савецкага раёна (старшыня Аляксей Галіч, т. 232-58-95). Зарэгістраваны таксама Рады Ленінскага р-на (ст. Уладзімір Ілюкевіч, т. 249-31-61), Заводскага р-на (ст. Пятро Русаў, т. 243-61-22), Фрунзенскага (ст. Алесь Чэчат, т. 258-75-18), Партызанскага (ст. Валеры Пашкевіч, т. 255-08-13), Кастрычніцкага (ст. Ян Грыб, т. 278-00-90). Не закончана рэгістрацыя Радаў Першамайскага (ст. Алег Шагулін, т. 269-10-22), Цэнтральнага (ст. Леанарда Мухіна, т. 237-56-12), Маскоўскага (ст. Ігар Яначкін, т. 274-62-68).

Самым балючым пытаннем застаецца збор складак і ахвяраванняў. Гарадская арганізацыя ўтрымлівае частку агульнай сядзібы ТБМ, між тым кошты на жыллёва-камунальныя паслугі растуць штодня. Таму ёсць над чым працаваць у гэтым кірунку.

У цэлым жа, справы ў гарадской арганізацыі ідуць нядрэнна, што засведчыў справаздачны сход, які адбыўся 17 лістапада ў Цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы. У выніку абмеркавання быў складзены план працы на 2002 г., які на апошнім пасяджэнні зацвердзілі сябры гарадской Рады.

Павел Сцяцко

# Культура мовы

## ЯК ЛЕПЕЙ? ЯК ПРАВІЛЬНА?

Чытаючы нацыянальныя перыядычныя выданні, з радасцю назіраеш, як удасканальваецца наша мова, як працягваюцца (хоць і не так актыўна, як у першай палове 90-х гадоў XX стагоддзя) пошукі новых слоў ці іх формаў замест ранейшых – штучных пазычанняў з усесаюзнага стандарту. Найбольшыя поспехі тут маюць тэрміналагічныя выданні, а таксама часопісы "Роднае слова", "Полымя" ды інш.

Разам з тым сустракаюцца і няўдалыя словы і выразы, якія не адпавядаюць структурна-сістэмавым нормам нацыянальнай беларускай мовы. Пра іх і гаворка ў далейшым выкладзе артыкула.

### Прымяншаць ці прыўменшваць?

У адным з вершаваных тэкстаў чытаем:

***Не прыўменшваць,***
***не перабольшваць,***
***Не спакушваць, хоць жадаць,***
***Быць не лепшым сябе і не горшым,***
***Проста быць – ні адняць, ні дадаць.***

У гэтых радках, апроч парушэння сінтаксічнай нормы беларускай мовы – "Не лепшым сябе" (замест не лепшым за сябе), бачым штучнае "прыўменшваць". Нармаваным для літаратурнай мовы ёсць ***прымяншаць***. Гэта засведчана і акадэмічнымі даведнікамі. Так, у двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй К. Крапівы (Т.2. Мн., 1989. С.310) чытаем: "Прымяншаць, несов. умалять, приуменьшать". А таксама вытворныя ад яго: "Прымяншацца, несов. страд. умаляцца, приуменьшаться. Прымяншэнне ср. умаление, приуменьшение". І пазнейшы па выданні трохтомавы "Русско-белорусский словарь" 1993 года (Т.3. С.36) таксама засведчыў: "Приуменьшать несов. прымяншаць; приуменьшаться страд. прымяншацца; приуменьшение –прымяншэнне, -ння, ср.; приуменьшить сов. прыменшыць".

Штучнасць паэтавага ўтварэння "прыўменшваць" відаць і з таго, што дзеясловы беларускай мовы з прыстаўкай ***пры-*** не маюць у сваёй аснове гэтага ***"ў"*** (яно ўласцівае расейскай мове). Параўнайма: *прымнажаць – приумножать, прымаўкаць – приумолкать, прыціхаць – приутихать* ды інш.

Пацвярджэннем штучнасці структуры ***"прыўменшваць"*** ёсць і тое, што яго не фіксуюць на сваіх старонках і тлумачальныя слоўнікі беларускай мовы.

### Рэкамендавана (дапушчана, зацверджана) як дапаможнік (падручнік) ці ў якасці дапаможніка (падручніка).

На тытульных лістах выдаваных у нас дапаможнікаў, падручнікаў чытаем: "Дапушчана... у якасці... дапаможніка", "зацверджана ў якасці падручніка...". А на адваротнай старонцы, у бібліяграфічных звестках, ужо няма гэтага "у якасці дапаможніка, падручніка", а толькі: ***дапаможнік, падручнік***. Напрыклад: "І. І. Бубновіч. Засваенне іншамоўных слоў беларускаю літаратурнаю моваю. Рэкамендавана Навукова-метадычным цэнтрам вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь у якасці дапаможніка для студэнтаў філалагічных спецыяльнасцей вышэйшых навучальных устаноў. – Гродна, 2000". А на адвароце: "Бубновіч І.І. Засваенне іншамоўных слоў беларускаю моваю: Дапаможнік для студэнтаў...". Або: "Беларуская мова. У дзвюх частках. Ч.І.: Фанетыка. Арфаэпія, Графіка. Арфаграфія. Лексікалогія. Фразеалогія. Марфемная будова слова і словаўтварэнне. Марфалогія". Пад агульнай рэдакцыяй Л.М. Грыгор'евай. Зацверджана Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь у якасці падручніка для навучэнцаў педагагічных вучылішчаў і каледжаў... - Мінск: "Вышэйшая школа", 1998". А на адвароце: "Беларуская мова. У 2 ч.: Ч.І: Падручнік для навучэнцаў педвучылішчаў і каледжаў"...

Дык што лічыць больш прыдатным – ***у якасці дапаможніка (падручніка)*** ці ***як дапаможнік (падручнік)***? На нашую думку, ужыванне ***"у якасці"*** – штучнае (калькаванне), бо калі выданне рэкамендуецца ***"у якасці дапаможніка"***, то гэта і ёсць дапаможнік. Нашую думку пацвярджаюць і запісы на тытульных лістах некаторых кніжных выданняў. Вось прыклады: "Сучасная беларуская мова: Марфалогія". Пад рэдакцыяй Ф.М. Янкоўскага. Дапушчана Міністэрствам вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР як вучэбны дапаможнік для студэнтаў філалагічных факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў БССР. – Выдавецтва "Вышэйшая школа". Мінск, 1975". І ў другім яго выданні (1980 г.): "... Дапушчана Міністэрствам асветы БССР як... дапаможнік – для студэнтаў філалагічных факультэтаў педагагічных інстытутаў". Тое самае бачым і ў выданні: М.С.Яўневіч, П.У.Сцяцко. Сінтаксіс сучаснай беларускай мовы. – Мінск, "Вышэйшая школа", 1969. А таксама ў другім яго выданні (Мн., 1980).

Дык ці патрэбная такая разбежнасць: на тытульным лісце – ***у якасці падручніка***, а на адвароце – як ***падручнік***?

У школьных выданнях, як нам здаецца, знойдзены найбольш прыдатны запіс: ***падручнік, дапаможнік*** і на тытульным лісце. Напрыклад: "Беларуская літаратура. Падручнік для 7 класа агульнаадукацыйнай школы з беларускай і рускай мовамі навучання. 2-е выданне, дапрацаванае. Зацверджаны Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь. – Мінск, "Універсітэцкае", 2001". Або: П.Я.Лойка. "Гісторыя Беларусі XVI – XVIII стст. Вучэбны дапаможнік для 7 класа агульнаадукацыйнай школы... Дапушчана Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь. – Мінск, "Народная асвета", 2000".

### Чаму мы так кажам ці чаму мы так гаворым...

Дзеяслоў ***казаць*** у беларускай мове парнатрывальны. Ён мае дзве формы трывання: ***казаць*** – незакончанае трыванне і ***сказаць*** – закончанае. У расейскай мове нарматыўна з гэтым коранем існуе адна форма – закончанае трыванне. Ролю незаконнага трывання выконвае іншакаранёвы дзеяслоў ***говорить***.

Пра сталае, нарматыўнае выкарыстанне беларускага адпаведніка ***казаць*** да расейскага ***говорить*** найперш сведчаць устойлівыя звароты, якія менш размываюцца пры трасянкавым (беларуска-расейскім) маўленні. Вось якія адэкватны да рас. ***говорить*** фіксуе ў беларускай мове трохтомавы "Русско- белорусский словарь" 1993 года. На старонцы 316 першага тома чытаем: *"иначе говоря – інакш кажучы; не говоря дурного слова – не кажучы нічога благога; вообще (в сущности) говоря – наогул кажучы; говорят (говорю) вам (тебе) – кажуць вам (табе); и не говори!, и не говорите! – і не кажы!, і не кажыце!; между нами говоря – між намі кажучы; что вы говорите! – што вы кажаце!; что и говорить – што і казаць; что (как) ни говори – што (як) ні кажы".*

Амаль тое самае і двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй К. Крапівы. У першым томе (Мн., 1988. С.561) чытаем: "Казаць несов. 1. Говорить; произносить; ён разгубіўся і не ведаў, што казаць - ... что говорить" ды іншае. Далей падаюцца выслоўі: *"іначай (інакш) кажучы – иначе говоря; карацей кажучы – короче говоря; казаць няма чаго – говорить нечего; як той казаў – как говорится; што і казаць – что и говорить; што ні кажы – как ниговори; што вы кажаце! – что вы говорите!; і не кажы(це)! – и не говори(те)!; казань казаць – говорить поучительно и скучно; людзі кажуць – люди говорят; нічога не кажучы – ничего не говоря; наогул кажучы - вообще говоря; між намі кажучы – между нами говоря; праўду (па праўдзе) кажучы – правду (по правде) говоря; шчыра кажучы – откровенно говоря; не тут кажучы – не здесь говоря; узяўся за гуж – не кажы, што не дуж – взялся за гуж – не говори, что не дюж; не кажы "гоп", пакуль не пераскочыш – не говори "гоп", пока не перепрыгнеш (не перескочишь);.*

"Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т.2. Мн., 1978 . С.375) падае слова ***казаць*** з чатырма значэннямі і змяншае ўстойлівыя звароты з гэтым дзеясловам (яго формамі), тлумачачы іх сэнс. Тут бачым большую частку тых выслоўяў, якія змяшчаюць названыя перакладныя слоўнікі.

З усяго згаданага вынікае, што па-беларуску лепш ***чаму мы так кажам*** (а не *гаворым*). Параўнайма і іншыя беларускія адпаведнікі да расейскіх з коранем ***"говор-"***: ***заговор – замова, заговорить от болезни – замовіць ад хваробы; заговор – змова ('патаемнае пагадненне'), сговориться – змовіцца; заговорщим – змоўшчык; сговор – дамаўленне, заручыны; договор – дамова, выговор – вымова, переговоры – перамовы, договоренность – дамоўленасць*** і да таго падобныя.





# Максім Багдановіч і Вільня

*"Вулкі Вільні зіяюць*
*і гулка грымяць!*
*Вір людскі скрозь заліў*
*паясы тратуараў...*
*А завернеш у завулак –*
*ён цесны, крывы...*
*У небе купалы,*
*брамы, байніцы і шпіцы..."*

Так пісаў пра Вільню Максім Багдановіч у пачатку мінулага стагоддзя. Вядома, з таго часу вельмі змяніўся наш горад, разросся і ў вышыню, і ў шырыню. А тады, у 1911 годзе будучы паэт прыедзе ў Вільню, каб сустрэца з супрацоўнікамі "Нашай нівы".

Вільня напачатку XX стагоддзя была буйным культурным і грамадскім цэнтрам Літвы і Беларусі. Максіма Багдановіча ўразіў горад, ён зачараваны любаваўся помнікамі архітэктуры. Тут можна было пачуць розную мову – польскую, літоўскую, беларускую, рускую і іншыя. У вершах паэт склаў сваю любоў старажытнаму гораду ("Вулкі Вільні зіяюць", санет "У Вільні", "Касцёл Святой Ганны", "Пагоня" і іншых). У 1991 годзе беларускай грамадскасцю Вільні адзначалі 100 годдзе М. Багдановіча, у ТБК – імпрэза паэтычная, вандроўкі па максімавых мясцінах з Лявонам Луцкевічам, асацыяцыя беларусістаў арганізавала і правяла навуковую канферэнцыю. У 1996 годзе ў газеце "Вечернин новости" у рубрыцы "Наш календарь" быў надрукаваны артыкул пра жыццё і творчасць М. Багдановіча (аўтар Л. Мілаш). У 1997 годзе разам з сваімі вучнямі ў музеі імя А. Пушкіна ў Вільні правяла паэтычную імпрэзу "Вільня ў творчасці М. Багдановіча", аб мерапрыемстве паведамляла газета "Эхо Литвы", вершы паэта гучалі і падчас адкрыцця выставы дзіцячых малюнкаў "Вільня вачыма дзяцей". У гэтым годзе адзначаецца 110 годдзе з дня нараджэння Максіма Багдановіча. У Таварыстве Беларускай культуры ў Вільні адбылася музычна-паэтычная вечарына "Максім Багдановіч і Вільня". Ён пакінуў у Вільні "след", яго нашчадкі чытаюць і помняць. Ён – пуцяводная зорка для беларусаў. Ён – сімвал Кахання, Шчырасці, Любові да свайго народа, Бацькаўшчыны, мовы, нацыянальнага адраджэння. Ён жыў і тварыў у цяжкі перыяд гісторыі Беларусі, але непахісна верыў у свой народ, у будучыню сваёй Радзімы. Так, трапна сказана – паэт нараджаецца не адзін раз, а зноў і зноў у новых сваіх чытачах. Вершы М. Багдановіча пра Вільню чыталі Дзіяна Чэрнікава і Леакадзія Мілаш. Шмат разоў я чытала "Пагоню" на розных імпрэзах напрыканцы XX стагоддзя. Гэта не проста верш, а гімн неўміручасці Бацькаўшчыны, гімн мужнасці, ён хвалюе, ён вучыць любіць Айчыну. У кожным радку – змаганне за волю:

***Толькі ў сэрцы,***
***трывожным пачую***
***За краіну радзімую жах...***
***Бійце ў сэрцы іх –***
***бійце мячамі,***
***Не давайце***
***чужынцамі быць!***
***Хай пачуюць як сэрца начамі***
***Аб радзімай***
***старонцы баліць...***

Гэты верш актуальны і сёння. Яго ведае кожны свядомы беларус. Лявон Луцкевіч у кнізе "Вандроўкі па Вільні" піша: "Не дзіва што шмат хто з нашых суродзічаў, трапіўшы ў Вільню, каб асвяжыць сваю гістарычную памяць, каб далучыцца да мінуўшчыны і абудзіць свае патрыятычныя пачуцці, пачынаюць вандроўку менавіта ад гэтага святога месца". З гэтага месца і мы з вучнямі 7 і 8 класа (класны кіраўнік Марыя Качан) ужо ў каторы раз вандравалі сцежкамі Максіма Багдановіча.

Вострая брама, Базыльянскія муры, касцёл Святой Ганны – святыя для кожнага беларуса мясціны. Л. Луцкевіч у сваёй кнізе піша: "Не толькі Напалеон захапляўся харастдвом касцёла Ганны, наш паэт Максім Багдановіч, калі ўпершыню наведаў Вільню, напісаў шэраг вершаў пра гэты цудоўны горад, у тым ліку і пра касцёл Святой Ганны.

***Каб залячыць у сэрцы раны,***
***Забыць пра долі цяжкі глум,***
***Прыйдзіце***
***да касьцёла Ганны.***
***Там зкікнуць***
***сцені цяжкіх дум...***

Цяпер цяжка сказаць, ці паэт напісаў верш уражаны гатычнай архітэктурай, ці ён успомніў сваю каханую дзяўчыну Ганну. Ён і сёння ўражвае сваёй святасцю, лёгкасцю і прыгажосцю, яго называюць застылай музыкай. Максім напісаў такія шчымлівыя радкі, іх цяжка вымаўляць услых, чытаеш і хочацца плакаць. Яны вельмі кранаюць. Пасля экскурсіі "Сцежкамі Максіма Багдановіча" вучні пісалі свае ўражанні, сачыненні. Урывак з аповеду Насці Лукшы:

*"Стары горад... Горад мінулага, незвычайнага, жорсткага, паэтычнага. Хадзілі па мясцінах Багдановіча. Пачалася экскурсія з Вострай Брамы. А больш за ўсё зачараваў касцёл Святой Ганны і верш паэта, прысвечаны яму. Калі слухаеш гэты верш – душа супакойваецца, нібыта слухаеш калыханку..."*



**Касцёл Святой Ганны. Фота Леакадзіі Мілаш, г. Вільня, 5 снежня 2001 г.**

На вечарыне ў ТБК Андрусь Старавойтаў выканаў песні на словы М. Багдановіча ў сваёй апрацоўцы і, вядома, "Зорку Венеру". Гэты раманс спявалі ўсе разам, на 100 годдзі, яго цудоўна выконваў Лявон Кароль.

Залу ўпрыгожваў партрэт паэта, намаляваны Маргарытай Стральчэняй у літоўскім стылі, яна малявала і касцёл Ганны і Пагоню, дзейнічала выстава кніг М.Багдановіча, у тым ліку і арыгінал – зборнік "Вянок". Першы прыжыццёвы паэтычны зборнік, надрукаваны ў Вільні. У апошніх радках, напісаных у Ялце, на вокладцы свайго паэтычнага зборніка, Максім успомніў Вільню!

***У краіне светлай,***
***дзе я ўміраю,***
***У белым доме***
***ля сіняй бухты,***
***Я не самотны, я кнігу маю,***
***З друкарні***
***пана Марціна Кухты.***

Паэзія М. Багдановіча – гэта і багацце думак, пачуццяў, хвяляванняў, яна чыстая, узнёслая. Далёка ад Бацькаўшчыны фармаваўся Максім як Асоба, яго светапогляд, ён свята веруў у адраджэнне роднага краю:

***Вось сімвал твой,***
***забыты краю родны!***
***Зварушаны нарэшце***
***дух народны,***
***Я вёрую, бясплодна не засне,***
***А ўперад рынецца,***
***маўляў крыніца,***
***Каторая магутна,***
***гучна мкне,***
***Здалеўшы з глебы***
***на прастор прабіцца.***

У 1992 годзе група беларусаў Вільні разам з Лявонам Луцкевічам пабывала ў Ракуцёўшчыне, каля знаёмага каменя – валуна, крынічкі, месца, якое натхніла паэта на напісанне санета "Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі", гэтыя верш любіў чытаць Л. Луцкевіч.

Хай жа ніколі не згасае Максімава Зорка!

Ён патрэбен і нам, сучаснікам!

*Леакадзія Мілаш,*
*г. Вільня,*
*9 снежня 2001 г.*



**Куток экспазіцыі ў Доме-музеі Максіма Багдановіча ў Горадні. Фота БелТА.**

**Леанід Лыч**

# Патрэбны "Летапіс беларускай мовы"

У новае, XXI стагоддзе наша краіна ўвайшла з масай неразвязаных найсур'ёзнейшых праблем, сярод якіх з поўным правам самай вострай і надзённай з'яўляецца моўная, бо менавіта ад дадзенага фактару цалкам залежыць захаванне і развіццё беларусаў у якасці самабытнай этнічнай супольнасць. Сёння ў Еўропе няма больш такога здэнацыяналізаванага народа, як беларускі, прычыны чаму трэба шукаць у вельмі працяглай па часе і дзейнай па выніковасці русіфікатарскай палітыкі імперскай Расіі, СССР-БССР і сучаснай Рэспублікі Беларусь з яе ліпавым дзяржаўным суверэнітэтам. Спадзяванні нацыянальна зарыентаванай часткі беларукага грамадства, што з уваходам у новае стагоддзе ўладныя структуры хоць трохі зменяць сваё стаўленне да моўнай праблемы, не на ёту не спраўдзіліся. Наадварот, русіфікатарская дзейнасць дзяржавы набыла яшчэ больш размах. Ёю робіцца ўсё, каб дашчэнту сцерці культурна-моўныя адрозненні беларусаў ад рускіх і гэтым самым знішчыць з парадку дня беларускае пытанне яшчэ напярэдадні стварэння палітычнымі лідэрамі гэтых народаў адзінай саюзнай дзяржавы. У самых высокіх уладных структурах не ўтойваецца, што ў ёй статус адзінай дзяржаўнай мовы будзе нададзены толькі рускай мове. Зараз беларуская мова цалкам выключана з афіцыйнай перапіскі паміж гэтымі дзвюмя дзяржавамі.

У сучасных надзвычай складаных варунках, калі ўлады Рэспублікі Беларусь ажыццяўляюць мэтанакіраваную палітыку па давядзенні сацыяльнай ролі роднай мовы тытульнага народа да нулявой адзнакі невымерна павышаецца адказнасць нацыянальна-самасвядомых людзей за захаванне сваёй этнакультурнай самабытнасці, асяродкам якой была, ёсць і будзе заставацца беларуская мова. Яе шчырыя руплівцы вырашылі прыступіць да вядзення пагадавога Летапісу беларускай мовы, у які будуць заносіцца найбольш паказальныя факты самаахвярнай барацьбы за мову і важнейшыя здзяйсненні ў гэтай высокароднай нацыянальнай справе. Трапяць на старонкі летапісу і факты дыскрымінацыі дзяржаўнай уладай і яе паасобнымі чыноўнікамі найдаражэйшага скарбу беларускага народа – яго роднай мовы. Новыя пакаленні беларусаў павінны ведаць імёны не толькі сваіх нацыянальных герояў, але і тых, хто імкнецца пазбавіць нашу краіну яе прыроднай роднай мовы. Летапіс беларускай мовы будзе складацца ў чатырох экзэмплярах: адзін з іх застанецца ў сядзібе Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, другі будзе высланы беларусам Беласточчыны, трэці – беларускай дыяспары ў ЗША як найбольш шматлікай і нацыянальна акуйнай, чацвёрты – беларусам Віленшчыны. У першы год складання Летапісу беларускай мовы функцыі Нестара даручана выконваць Леаніду Лычу, якому якраз належыць ідэя вядзення такой хронікі.

На падставе матэрыялаў Летапісу беларускай мовы творчая група ТБМ імя Ф.Скарыны штогод будзе складаць аналітычную справаздачу пра моўную сітуацыю ў краіне і высылаць гэты дакумент на адрас Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь, Савета Міністраў РБ, кіраўнікоў усіх славянскіх краін, шэрагу міжнародных арганізацый з тым, каб сусветная цывілізацыя ведала, у якіх неверагодна цяжкіх варунках беларускаму народу даводзіцца на сваёй гістарычнай зямлі адстойваць права карыстацца ў грамадскім жыцці спрадвечнай матчынай мовай, забяспечыць ёй статус адзінай дзяржаўнай, што толькі і можа выратаваць яе прыродных носьбітаў ад рускай культурна-моўнай асіміляцыі.

 



# А народ творыць




Марыя Аляксандраўна Воўкава (на здымку) ужо некалькі гадоў вядзе гурток народнага ткацтва пры Старадарожскім раённым Цэнтры народных рамёстваў і дзіцячай творчасці. Майстрысе ўжо 65 гадоў. Займаецца яна ткацтвам з самага дзяцінства. За гэтыя гады ёй саткана мноства ручнікоў, абрусаў, посцілак, дываноў. Усе гэтыя вырабы майстрыха дарыла родным, суседзям, знаёмым. Яе работы дэманстраваліся на шматлікіх выставах, ёсць яны і ў экспазіцыі раённага краязнаўчага музея.

**Фота Аляксандра Дзідзевіча, БелТА.**



У выставачнай зале Гомельскага абласнога Цэнтра народнай творчасці прайшла выстава работ з пацярпелага ад Чарнобыля Лельчыцкага раёна. Народныя ўмельцы прадставілі шырокі спектр вышывак, вырабаў з бяросты і саломкі.

**На здымку:** метадыст Цэнтра народнай творчасці Таццяна Мачалава з экспазіцыяй з Лельчыцкага раёна.

**Фота Сяргея Халадзіліна, БелТА.**

# Калядныя павер'і і варажба ў розных краінах

1. Калі Каляды ў панядзелак – зіма добрая, вясна і лета сырыя, ураджай багаты, восень сухая, мёду мала, плады вялікія, выпадковыя смерці.

2. Калі Каляды ў аўторак – зіма снежная, вясна сырая, лета і восень сухія, ураджай бедны. Плавуны тонуць, нечаканыя хваробы.

3. Калі Каляды ў сераду – зіма добрая, доўгая, вясна сухая, лета добрае, восень сухая, агародніны і мёду багата.

4. Калі Каляды ў чацвер – зіма перамешаная, вясна і лета ветраныя, мала агародніны, бедна мёду, ураджай пладоў, злакам беднасць.

5. Калі Каляды ў пятніцу, зіма доўгая, вясна з вятрамі, лета сырое, восень сухая, вялікі ўраджай, шмат навальніц, хваробы вачэй.

6. Калі Каляды ў суботу – зіма ветраная, вясна і лета сырыя, недахоп пладоў.

7. Калі Каляды ў нядзелю – зіма будзе пераменная, вясна сырая, лета сухое, восень ветраная, пладоў багата, многа мёду.

• На Каляды снег – на ўраджай арэхаў.

• Калі на Каляды цёпла і бясснежна, будзе мала хлеба і шмат саломы, вясна будзе халодная.

• Калі на Каляды адліга – вясна будзе цёплая і ранняя.

• Калі калядны дзень цёплы ці ноч мяцельная, пчолы добра раіцца будуць.

• Калі на Каляды выпадзе шмат снегу, дык будзе добры ўраджай, асабліва хмелю.

• На Каляды іней – ураджай на хлеб.

• Светлая ноч на Каляды – носкія куры, цёмная – малочныя каровы, неба зорнае, ураджай на гарох, сачавіцу, грыбы і ягады.

• Снягі глыбокія, дык травы і хлеб добрыя і добры год.

• Калі на Каляды дзень ясны будзе, дык добры ўраджай проса, а калі пахмурны – дык недарод яго.

• Калі на Каляды шыюць, дык у хаце сляпы народзіцца.

• На каляды гнуткай працы не робяць, таму што прыплоду жывёлы не будзе.

• Падсохлы верх каляднай куцці здымалі і аддавалі курам, каб добра яйкі неслі.

• Зачарпнуўшы першую лыжку, гаспадар стукаў у вакно і клікаў мароз "ісці есці куццю", каб не марозіў гарох, грэчку, пшаніцу, ячмень.

• Ад Каляд да Хрышчэння – у гэтыя дні Бог ад радасці, што ў яго нарадзіўся сын, выпускаў чарцей пагуляць – ад іх малявалі крэйдай крыжы на дзвярах жылых і нежылых памяшканняў.

• У святы вечар (перад Калядамі) тугія клубкі пражы маталі, каб качаны капусты тугія былі.

• На Каляды спутваюць ногі стала, каб жывёла не збягала з гаспадарчага двара.

• У Калядны дзень гаспадару не годна з двара выходзіць, бо авечкі заблудзяцца.

• На Каляды курэй не кармілі, каб агародаў не капалі.

• У першы дзень Каляд пры снеданні нельга піць ваду, будзеш піць на сенакосе.

• Злодзеі стараліся акуратна сцягнуць якую небудзь рэч у ноч пад Каляды. Пасля гэтага поспех крадзяжу лічыўся забяспечаным не гледзячы на самыя рызыкоўныя захады, на ўвесь год.

• На Каляды не добра, калі першай увойдзе ў хату (з чужых) жанчына, увесь год будуць хварэць бабы ў той хаце і ў тым годзе.

• У ноч пад Каляды двары, хлявы, куратнікі старанна зачыняюцца, так як лічылася, што калі ў гэтую ноч украсці сена ці салому з двара суседа, дык яго жывёла пахудзее, а ў украўшага паправіцца і што куры ў тым двары дзе ўкралі салому будуць нясціся ў чужых гнёздах.

• Раніцай на Каляды першым уставаў гаспадар і перш усяго выпіваў чарку гарэлкі каб у жывёл увесь год быў добры апетыт.

• Хлопчыкі прадавалі галінкі ядлоўцу, так як па павер'ях, яго дым ахоўвае ад хвароб – палілі іх на куццю.

• Вячэра калядная пачынаецца з таго, што гаспадар першы выпіваў шклянку віна ці палінкі і гаварыў малітву. Затым усе елі часнык каб захаваць сябе ад хвароб.

• Вячэру на Каляды заканчвалі супам з кіслай капусты, кіслая капуста прыносіць шчасце, дае дабрабыт і здароўе.

• На куццю распаўсюджаны звычай мыцца, ці нават купацца вечарам у рэчцы, ручаі ці крыніцы. Гэта можа прадухіліць хваробы, прынесці чалавеку здароўе і бадзёрасць.

• У Польшчы на куццю у час вячэры на стол лыжкі не клалі, а трымалі ў зубах, каб крыж не балеў (хварэў).

• У Мазовіі елі стоячы, каб не хварэў пазваночнік пры працы. Паміж першым і другім глытком лыжку паднімалі ў гару, на стол яе не клалі – гэта павінна было засцерагчы ад болесці ў спіне і ад зубной болі.

• У польскіх сем'ях гаспадар раніцай на Каляды напаўняў вадой вялікую міску ці вядро, кідаў туды трохі сена з стала, кавалачкі аплаткі і хлеба, срэбныя манеты. Гэтай вадой мылі твар, верылі што ад гэтага скура будзе гладкая, а ў дзяўчат будуць добра расці валасы. У славенаў і чэхаў грошы і кавалачкі хлеба, аплаткі кідалі ў студню.

• Пасля вячэры выцягваюць з паднастольніка сцяблінкі сена і па іх даўжыні судзяць, які будзе лён – доўгі ці кароткі.

• Славяне лічылі, што зрабіцца прыгожым і маладым можна памыўшыся на другі дзень Каляд у свежай вадзе. Ваду налівалі ў драўляную (з вярбы) пасуду і кідалі ў яе яблыка. У іншых раёнах мыліся малаком.



• На Каляды ў Аўстрыі захоўваўся звычай цалаваць пладовыя дрэвы з поўным ртом ежы: "Будзь вясёлым, не будзь лянівым, такім жа поўным, як і мой рот".

• На Каляды нельга папраўляць што-небудзь, бо інакш увесь год будзеш хадзіць у рваных нагавіцах.

• Скандынавы Каляды называлі святам міру, у калядныя дні не палююць ні на птушак, ні на жывёлу.

• На Каляды пякуць столькі хлеба, што яго хапае да Дабравешчання. Для таго каб хлеб засцерагчы ад плесені, яго закопвалі ў хлебныя зёрны.

• Раніцай на калядную куццю ўсе хатнія мыліся кідаючы ў ваду перад мыццём срэбную манету (манеты). Гэта нібыта прыцягне багацце ў сям'ю.

• Славакі верылі, што павінен памерці той, хто на куццю разрэзваючы яблыка папалам, разрэжа і зерне.

• Не еш да абедні, а то жонка шчарбатая будзе.

• Адкуль на куццю браханне сабакі, адтуль свацці будуць.

• Славяне лічылі, што усе зверы ў калядную ноч гавораць як людзі і хто пачуе гэтую размову, памірае.

• У польскіх сем'ях гаспадыня перад сном у калядную куццю пакідала лушпінкі ад арэхаў запоўненыя соллю. Іх было столькі, колькі чалавек у сям'і. калі соль у якой-небудзь лушпінцы раставала, той чыя яна, хутка памрэ.

• Брахні, брахні сабака дзе мой суджаны, варожыць дзяўчына на Каляды, стукаючы лыжкай аб вароты.

• Напярэдадні Каляд дзяўчаты насыпалі жменькі насення на падлогу і пушчалі курыцу. Якую кучку курыца дзяўбане першай, тая дзяўчына пойдзе замуж першай і гэдак далей. Якія не будуць дзяўбанутыя, замужаства не прадбачыцца.

• Дзяўчаты вышморгвалі з стога каласы, калі пападзецца каласок з зернем, быць замужам за багатым.

• На Каляды, калі дзяўчына жадае прываражыць да сябе жаніха, дык яна дабаўляе ў напой некалькі капель сваёй крыві і "любоўны напой" дае хлопцу які ёй падабаецца.

• Дзяўчаты не даядалі абрадавы калядны хлеб, менавіта першы кавалак і клалі яго пад падушку каб прысніўся суджаны.

• На Каляды дзяўчаты апоўначы ахоплівалі рукамі шчыкеціны плоту ці бралі бярэмя чужых дроў. Цот – замуж ісці, няцот – макам сядзець.

• Выцягвалі палена з кастра дроў – гладкае – жаніх бедны, няроўнае – багаты.

• Завязваюць каню вочы, дзяўчына сядае на каня. Калі конь пойдзе за вароты – быць замужам.

• Усоўваюць нітку трымаючы іголку ўніз вушкам, утыкваюць у сарочку і кладуцца спаць, сон скажа ці быць замужам.

• Зняўшы з сябе крыж і не жагнаючыся дзяўчына ішла да канюшні, станавілася спіной да дзвярэй і стукала тры разы па дзвярах левай рукой прыгаворваючы: "Калі выйду замуж, дык надзявайце аброць" і калі конь забрынкае аброццю, дык варажбітка ў гэтым годзе выйдзе замуж.

• Варажбуючыя раскладваюць на падлозе (стале) дробку розных рэчаў, ставілі люстэрка і міску з вадой. Пасля гэтага прыносілі пеўня і глядзелі, што ён пачне дзяўбаць у першую чаргу. Крупы – суджаны багаты, хлеб – да ўраджаю, нажніцы – суджаны будзе кравец, попел – табачнік, вугаль – на вечнае дзявоцтва, манеты – да грошай. Калі певень дзяўбане люстэрка – муж будзе фарсуном, калі піў ваду – муж можа аказацца пьяніцам.

• Суджаны багаты, ступні ботам, суджаны бедны ступні лапцем – разсявалі попел і рабілі высновы на другі дзень.

• Прыдзі мой суджаны, піць папрасі "гаворыць дзяўчына замыкаючы замок над вадой і суджаны прыходзіць у сне.

• У якой старане на каляды зорка ўпадзе, з той стараны і суджаны.

*Рамашка Раман,*
*г. Горадня.*

 





**Станіслаў Суднік**

# Сейлавічы: крэскі на белай пляме

## Спроба тапанімічна-этнаграфічнага эсэ

*(Працяг. Пачатак у папяярэдніх нумарах.)*

Але расказаўшы пра печ мы мусім ізноў вярнуцца да хаты.

Адной з асаблівасцю беларускіх хатаў канца 19-га – пачатку 20-га стагоддзя была ***прызба***. Прызба – гэта невысокі 60,70,80 см абвод вакол хаты. Шырыня абводу каля 50 см. Вакол хаты забіваліся калкі закладваліся жэрдкі або дошкі, ці заплятаўся частакол і паміж загарадкай засыпаліся ці то пясок, ці кастрыца, ці апілкі. Усё гэта рабілася быццам бы для ўцяплення, каб вецер не паддуваў пад ***падваліны***. Прызбы былі любімым месцам пасядзелак і дзіцячых гульняў. Пасля вайны прызбаў ужо не насыпалі, але ў Сейлавічах можна было знайсці хаты з прызбамі яшчэ ў 70-х гадах, а мо і пазней. Калі падысці крытычна, то я не ведаю колькі карысці было ад прызбы, а жывую шкоду давялося бачыць на свае вочы. Калі разбіралі колішнюю Філіпаву хату, то аказалася што ўсе бярвенні, якія былі над прызбай былі даволі здаровыя, а бярвенні, прысыпаныя прызбай былі цалкам гнілыя.

Лес на хату вазілі ў тыя гады на конях. Лесавозаў, прынамсі ў калгасах, не было. Прычэпы для перавозкі лесу з'явіліся ў другой палове 60-х. Конь быў больш даступны. Лес вазілі зімой і летам. Летам вазілі на вазах. Пры гэтым ***панарад*** воза раздзяляўся. Вымаўся ***шворан***. Пярэдні канец бярвенняў увязваўся да ***перадка***. Задняя частка воза падводзілася пад задні канец бярвенняў. Воз прыцягваўся ***ланцугом*** да бярвенняў.

Зімой лес вазілі на санях. Сані не дзеляцца на дзве часткі. Таму для перавозкі лесу выкарысоўвалася ***"сучка"***. Сучка -- гэта санкі крыху меншыя за самі сані, якія прывязваліся пад задні канец бярвенняў. Сваю назву сучка атрымала ад тога, што пры парожняй паездцы да лесу яе проста прывязвалі вяроўкай да саней і яна матлялася ззаду і "бегла" за санямі, як сабачка, або сучка.

Хаты сярэдзіны стагоддзя ставіліся на ***фундамент*** або ***падмурак***. У Сейлавічах вядомыя абодва гэтыя словы, але часцей ужываецца ***фундамент***. Фундаменты выконваліся двума спосабамі:

1) прывозілася 4-6 вялікіх камянёў і ўстанаўліваліся пад чатыры вуглы і, бывала пад сярэдзіну доўгай сцяны. На камяні клаўся першы вянок зруба (***падваліны***). Пазней прамежкі паміж вуглавымі камянямі запаўняліся меншымі камянямі і ***зацымантоўваліся*** (тынкаваліся цыментавай рошчынай);

2) фундамент адразу заліваўся па перыметру хаты, а пасля ўжо кляліся падваліны.

Падваліны былі асновай хаты. Як правіла яны рабіліся з новага лесу. Наступныя вянкі маглі быць і ад старой хаты (пры перасяленні).

Да вайны і ў 50-я, 60-я гады сейлавіцкія хаты рубіліся ў асноўным у ***просты*** вугал, пазней пачалі рубіць у ***нямецкі*** (плоскі) вугал. Хаця і сама назва ***нямецкі,*** і памяць сведчаць пра тое, што нямецкі вугал сейлавіцкія цеслі ведалі не пазней, як ад вайны, а доўга не ўжывалі яго толькі па той прычыне, што пры перасяленні амаль ніхто не рабіў новай хаты, а пераносілі старыя, рубленыя ў просты вугал, які на нямецкі не пераробіш, а калі пачалі рубіць новыя, то нямецкі вугал выцесніў просты, а калі драўляныя хаты пачалі рабіцца з перспектывай абкладвання цэглай, то просты вугал стаў зусім непрыймальны і перастаў ужывацца.

Бярвенні для хаты ***часалі*** або ***абразалі***. У 50-х -- 60-х гадах бярвенні ў асноўным часалі. Пры гэтым цеслі дайходзілі да такога майстэрства, што пасля сякеры бярвенні выходзілі, як з пад гэбліка. Гэта было звычайным для ўсёй Беларусі і нават прыказка з'явілася: *"Вазьмі, сынок, пагаблюй, а бацька сякеркай паправіць"*. Пасля з'яўлення піларамы бярвенні пачалі абпілоўваць. Маглі абпілоўваць і ўручную, але практычна не рабілі, бо гэта было марудней і цяжэй, чым часаць.

Да акон вянкі зруба вязаліся з цэлых бярвенняў з выразам для дзвярэй. Паміж бярвеннямі клаўся ***мох***. Пазней, каму ўдавалася, мог слаць ***кудзелю***. Мох ***дралі*** ў Госцібне, або за Кунасай ці Бузунамі. Надраць воз моху -- справа хуткая і няцяжкая. Мох набіралі ў кашы і ***слалі*** даволі тоўстым пластом. Працэс называўся ***мшэннем*** або казалі: ***"Намшыць"***.

Бярвенні ***прыдзіраліся*** адно да другога (у верхнім палене выбіралася паўкруглая выемка і яно як бы накрывала ніжняе. ***Драць драчку*** трэба было вельмі акуратна. Невялікая хіба прыводзіла да ўтварэння шчылін паміж паленамі. Шчыліны ***свіціліся*** наскрозь. Вось тут і выручаў мох. А народ жартаваў з гэтай нагоды: "Каб не клін і не мох, то цесля б здох", - маючы на увазе, што ніякі гаспадар работу са шчылінамі не прыме.

Бярвенні зшывалі драўлянымі шплінтамі. Да вайны дзіркі, як правіла выдзёўбвалі ***долатам.*** Пасля вайны свідравалі ***тэбелем*** або ***тэблем.*** Тэбель -- гэта вялікі двуручны свярдзёлак. Добрыя тэблі рабілі ў Рымашах (Капыльскі раён), але мабыць рабілі і ў іншых месцах. Рабілі ў кузнях. Вышыня тэбля каля 60 - 70 см. Дыяметр адтуліны прыблізна 4-5 см.



**Тэбель**

Паводле гучання слова ***тэбель*** павінна браць пачатак у нямецкай мове, як і ***гэбель, шархебель, вінкель*** (гэблік, шархеблік), але нават даволі вялікія слоўнікі не пацвярджаюць гэтага. Мабыць, як пажартаваў адзін мой знаёмы, немцы ўжо самі згубілі гэтае слова Магчыма, што назва, паходзіць проста ад падабенства да літары "Т". Але слова ***тэбель*** не вузка дыялектнае, яно даволі шырока вядомае па Беларусі.

Ад ніжняга краю акон зруб вёўся кароткімі бярвеннямі, якія называюцца ***карантышамі***. Карантышамі ў Сейлавічах называюць яшчэ і невысокіх мужчын. Кань вялася суцэльнымі бярвеннямі.

Калі зруб падымаўся дастаткова высока, ставілі ***рыштаванні.*** Рыштаванні ставілі са знешняга боку зруба. Рыштаванні рабіліся з жэрдак і дошак.

Пасля таго, як выганялі карантышы, зверху кляліся цэлыя палены. Гэтыя палены называліся ***ашлапы***. Дакладней, ***першыя ашлапы***. ***Другія ашлапы*** кляліся па ***бэльках.*** Гэта апошні вянок зруба. Бэлькі ў вясковых хатах суцэльныя.

На бэлькі абапіраліся ***кроквы.*** Кроквы з'яўляюцца асновай стрэх ў сейлавіцкіх хатах . Стрэхі хлявоў, як правіла робяцца на ***ключах***.

Па кроквах прыбіваюцца латы. Для латаў ужываюцца жэрдкі, аполкі, дошкі, у залежнасці ад матэрыялу, з якога робіцца страха.

Будоўля зруба магла закончвацца на розных стадыях: установкай кроквaў, латамі або страхой.

У адпаведнасці зназванымі этапамі будоўлі склалася пэўная традыцыя. Паводле сейлавіцкай традыцыі гаспадар-замоўнік мусіў за свой кошт частаваць цесляў 3-4 разы: пры заснававанні асновы, пры першых ашлапах, пры другіх ашлапах, пры заканчэнні. Скупы гаспадар мог выгаварыць адны ашлапы. Пры заканчэнні цеслі прыбівалі наверсе крыжык. Калі гаспадар спрабаваў што-небудзь скруціць з аплатай ці пачастункам, то крыжык прыбіваць адмаўляліся. Былі выпадкі, калі ў выніку канфлікту цеслі збівалі крыжык з пабудаванага зруба. Пра гэта вёска памятала дзесяціголдзямі.

У той час, як зрубы сейлавіцкіх хатаў перацярпелі мала зменаў (змяніўся вугал) – стрэхам давялося прайсці значны шлях эвалюцыі. Да вайны стрэхі ў большасці сваёй былі саламяныя. Салома была найбольш танным, надзейным і цёплым пакрыццем. Для страхі гадзілася толькі ***кулявая салома***, г. зн. жыта павінна было жацца сярпом і вязацца ў ***сноп***. Пры малацьбе снапы распускалі, і некалькі абмалочаных снапоў звязвалі ў ***куль***. Крыць саломай было не так проста, але справа даступная. Пад салому страха ***лацілася*** тонкімі жэрдкамі. Пасля жняярак кулі былі горшыя, а пасля малатарні ці камбайна салома на страху не гадзілася.

У значнай ступені гэтая прычына, механізацыя жніва і малацьбы, г.зн. рэзкае змяншэнне даступнасці кулявой саломы аб'ектыўна прымусіла народ шукаць новыя віды пакрыцця для стрэх.

З трох відаў пакрыцця, якія прыйшлі на змену: ***дранкі (шчапы), гонты і чарапіцы***, найбольш таннай, а таму масавай аказалася дранка – тонкія драўляныя пласціны, якія драліся на спецыяльным станку, у асноўным з асовых (асінавых) калодак, сяды-тады -- з бярозавых. ***Дранка*** была настолькі масавай, што прамысловасць пачала выпускаць спецыяльныя цвічкі – доўгія і тонкія.

***Гонта*** была значна даражэйшая. Гонта – драўляныя дошчачкі з клінападобным тарцом і пазам у шырокім канцы кліна.

***Чарапіцай*** у Сейлавічах была пакрыта можа адна хата.

Неўзабаве з'явілася ***бляха*** і ***шыфер***. Бляха навіной не была. Проста яе цяжка было дастаць і яна была дарагая. Бляхай крыць умелі. Амаль у кожнага цеслі дома была кіянка.

У адзін час народ знайшоў выйсце з бляшанага дэфіцыту ў тым, што пачалі крыць хаты начоўкамі. Куплялі начоўкі, распроствалі іх і крылі хаты. Але сапраўдны пераварот адбыўся калі шырока пайшоў шыфер.

У 60-х гадах у Пагулянцы скончылася гліна і цагельня зачынілася. На яе месцы адчынілі шыферны завод. Пагулянскі шыфер быў нізкай якасці, сыры і цяжкі, але быў танны. Лепшай якасці быў крычаўскі шыфер. Неўзабаве шыферныя стрэхі сталі самыя масавыя ў Сейлавічах.

Абавязковымі элементамі хаты з'яўляецца столь і падлога.

Дошкі да з'яўлення піларамаў пілавалі ўручную спецыяльнымі ***падоўжнымі піламі***. Для пілоўкі дошак выкарыстоўваліся спецыяльныя казлы вышынёй больш двух метраў, якія называліся ***сталюгамі***. Пілавалі, як правіла, утраіх: адзін зверху і двое ўнізе.

Дошкі на столь і падлогу трэба было габляваць. Габлявалі дошкі спецыяльнымі гэблікамі на два чалавекі. Гэты гэблік меў шырокае ***жаляска*** *(металічная частка гэбліка)*, чатыры ручкі і называўся чамусьці ***баран***. Назва гаксама шырока распаўсюджана па Беларусі.

Яшчэ ў другой палове 20-га стагоддзя столь рабілася з дошак ***у наклад***. Гэта значыць першы пласт столі клаўся габлёванымі дошкамі па бэльках на нейкай адлегласці адна ад другой. Наступны пласт клаўся ў наклад, г. зн. прамежкі паміж ніжнімі дошкамі зверху закрываліся верхнімі.

Па баках ніжнія дошкі часаліся, а пасля габляваліся, верхнія маглі не часацца. Для накладной столі роўнасць бакавых граняў не была крытычнай і іх габлявалі з большага. А вось для падлогі, дзе дошкі прыцісталіся адна да адной з дапамогай скобаў і кліноў, роўнасць бакавых граняў мела выключнае значэнне. Таму дошкі для падлогі ***спускаліся***, апрацоўваліся ***спускам***. Спуск -- гэта гэблік даўжынёй каля 80-90 см.

Праз некаторы час пайшла мода падшываць столь пад бэлькі, каб бэлек не было відно. Падшывалі ўжо рознымі матэрыяламі: вагонкай, ДВП, фанерай. Зверху столь засыпалася кастрыцай. У адрозненне скажам ад керамзіту кастрыца лёгкая і цёплая. Зараз кастрыцу возяць з Гарадзейскага льнозавода.

Падлога – элемент менш важны, чым столь, таму тут працэсы ішлі ад земляной падлогі да дашчаной. Земляная падлога па сутнасці была токам. У хату наносілася гліна, замешвалася густа і ўтрамбоўвалася. У другой палове 20-га стагоддзя ў Сейлавічах ужо не было хатаў з цалкам землянымі падлогамі. Часцей за ўсё земляныя падлогі заставаліся ў сенях, на кухнях. У чысцейшых пакоях, як правіла былі дашчаныя падлогі і як правіла не маляваныя. Але фактычна на працягу 60-х гадоў сітуацыя рэзка змянілася. У большасці сваёй земляныя падлогі зніклі і былі заменены ці дашчанымі ці керамічнымі (плітка). Усе падлогі пачалі малявацца. Гэта рэзка змяніла гігеенічную сітуацыю ў хатах.



**Гэблік, спуск і баран**

Характэрнай асаблівасцю вясковых хатаў з'яўляецца наяўнасць усякай патрэбнай і непатрэбнай жыўнасці. Да непатрэбнай жыўнасці адносяцца мухі, камары, мышы. Пры земляных падлогах да такой жыўнасці належалі яшчэ і блохі, у вёсцы кажуць: ***скочкі***. Калі зніклі земляныя падлогі, а дашчаныя пачалі маляваць блохі з хатаў зніклі. Між іншым вясковыя хаты не ведаюць прусакоў (тараканаў). Таму першага прусака мне давялося ўбачыць у гігіенічнай сталіцы.

Слова ***"веранда"*** з'явілася неяк раптам і выцесніла слова ***"ганак"***. Дакладней не выцесніла, а пацясніла.

Слова ганак у Сейлавічах мае два значэнні. Вузкае – гэта вымураваная (выцэментаваная, залітая бетонам) або зробленая з дошак пляцоўка перад дзвярыма з неабходнай колькасцю ступенек. У шырокім сэнсе – ганак – гэта тая ж пляцоўка і надбудаваная над ёю крытая прыбудова да хаты, раней, як правіла, не зашклёная, з лаўкамі па баках. Такія ганкі былі далёка не ўва ўсіх. У той час як ганак, які прыгожа аздобілі, зашклілі, пачаў называцца верандай і стаў амаль абавязковым элементам кожнай хаты, асабліва тых хатаў, якія стаяць шырокай сцяной да вуліцы.

*(Працяг у наст. нумары.)*

# Навагоднія павер'і і варажба насельніцтва розных краін

## Еўрапейскія прыкметы...

· Калі на Новы год цяпло і снег – лета будзе цёплае і дажджлівае.

· Калі ў гэты дзень туманныя кругі вакол сонца, хмары ідуць супраць ветру і певень цягне хвост да зямлі, то прыдуць снегапады і мяцеліцы.

· На галінках дрэў на Новы год шмат снегу летам ні грыбоў ні ягад не знойдзеш.

· Выпаўшы на Новы год снег, туман, прадвяшчае ўраджай.

· Неба зорнае, да ўраджаю, асабліва ягад.

· На Новы год моцны мароз і малы сняжок на ўраджай хлеба, а калі цёпла і снегу няма – неураджай можа быць.

· Калі на Новы год вецер дзьме з усходу, трэба чакаць гарачага і сухога лета, калі з поўдня – умеранага, заходні вецер абяцае дажджлівае лета, паўночны – халоднае з градам.

## і павер'і

· Абіраюць 12 цыбулін ад верхняй лускі, пасыпаюць на кожную цыбуліну па кучцы солі і кладуць іх на ноч на печку. Раніцай глядзяць, то таму, на якой цыбуліне за ноч соль змакрэла, такі па ліку месяц будзе дажджлівы.

· Селянін прыйшоўшы з ютрані ішоў на скрыжаванне дарог, чарціў палкай ці пальцам крыж, прылягаў да таго месца вухам і слухаў. Калі пачуецца што едуць санкі з грузам, год будзе ўраджайным, калі пустыя – неўраджайным.

· У сялян было такое павер'е. Апоўначы яны выходзілі ў гумно, клаліся на сена і слухалі, да ўраджайнага года чуўся шум, да неураджайнага – ціха было.

· Фермеры прыкмячалі надвор'е перцых дванаццаці дзён новага года, так як верылі, што які дзень новага года, такая будзе пагода ў адпаведным парадку месяца.

· Селянін у навагоднюю ноч ці раніцай ідзе ў сад, абвязвае дрэвы саломенным жгутом каб яны ў новым годзе добра пладаносілі.

· На Новы год лічылася што павінна быць у хаце чыста прыбрана, вымецена, а ўсе сямейнікі павінна рана ўставаць, каб рана ўставаць увесь год.

· Калі першы дзень вясёлы, дык і год будзе такі.

· Кожны павінен весці сябе годна ў дзень Новага года. Як зрабіў у гэты дзень, так будзе і ўвесь год.

· Пад вечар, як толькі апусціцца сонца, у хаце перад абразом Хрыста запальваюць свечку з чыстага воску, якая павінна гарэць усю ноч, каб шчасце магло зайсці ў хату. Дзверы і парогі абмазвалі часныком.

· Напярэдадні Новага года купкі маладых людзей з сякерамі і вяроўкамі адпраўляюцца на ўзгоркі. Адтуль вярталіся з ахапкамі ялдоўцу. Яго клалі каля каміна для прасушкі. Ранняй раніцай на Новы год старанна зачынялі дзверы і вокны хаты, запальвалі галінкі ялдоўцу і насілі па ўсёй хаце. Пасля таго, як дым "ачысціў" хату, адкрывалі вокны. Тое ж самае рабілі ў хлявах і адрынах.

## У Шатландыі

· Пад Новы год адчынены для кожнага дзверы любога дома. Прыходзь любы, будзеш госцем.

· Лічылася, што дабрабыт у ндыходным годзе залежыць ад таго, як сустрэнуць яго. Таму ўсюды прынята было ўрачыста і святочна сустракаць Новы год.

· Паўсюдна распаўсюджана павер'е, што мноства ежы ў першы дзень новага года можа забяспечыць і мноства ежы на працягу ўсяго года.

· Па паводзінах чалавека ў першы дзень новага года мяркуюць аб тым, што яго чакае ў наступным годзе. Стараліся нічога не пазычаць, багацце ежы, падаць што-небудзь новае.

· На Новы год не трэба крычаць у хаце, нядобра што-небудзь церці, не варта аддаваць што небудзь з хаты ці прадаваць, нельга піць і нават таўчы каву, не дазваляецца ў хату упускаць чорных сабак, а белых спецыяльна прыводзяць у хату і кормяць.

· Вельмі кепскай прыкметай лічыца разбітая у першы дзень шклянка ці што небудзь шкляное.

· Звычай упускаць Новы год. Калі гадзіннік пачынае біць 12, адчыняюць заднія дзверы хаты каб выпусціць стары год, а з апошнім боем гадзінніка адчыняюць пярэднія дзверы – упускаюць Новы год.

· Каб прываражыць хлопца, дзяўчына павінна была ў навагоднюю ноч закруціцца з галавы да ног у белую прастыню і так ісці апоўначы да яго хаты. Па шляху яна павінна рассяваць трыма пальцамі вузкую сцяжынку семен ільну ад сваёй хаты да яго. У канцы шляху тройчы перавярнуцца і пры гэтым назваць імя хлопца.

## У Італіі

· Апоўначы 31 снежня італьянскія гараджане з грукатам выкідваюць праз вокны нягодную фарфоравы і шкляны посуд, ломаную мэблю і інш. Новы год трэба сустрэць вызваліўшыся ад усяго старога і кепскага, маркотнага, назапашанага ў мінулыя гады.

· Не дазвалялася ў першы дзень года выконваць цяжкую і брудную працу, інакш увесь год пройдзе ў безперапыннай цяжкай працы без адпачынку.

· Напярэдадні Новага года італьянцы імкнуцца не пазычацца, не сварыцца і закончыць усе справы. Яны вераць у тое, што як уступіш у новы год, такім ён і будзе.

· На Новы год не сердаваць, не сумаваць, не аплочваць даўгі, плацяжы і гэдак далей, а наадварот імкнуцца правесці яго як можна весялей і шчасліва, каб увесь год быў шчаслівы.

## У Балгарыі

· З дванаццатым ударам гадзінніка ў дамах тушаць святло і святочна апранутыя людзі цалуюцца хто з кім хоча, пасля чаго святло запальваюць зноў.

## У Венгрыі

· Павер'е гаворыць, што пад Новы год нельга есці птушку. Птушка лятае а разам з ёю можа адляцець і шчасце.

· Не належыць у Новы год плаціць даўгі, увесь год будзеш разплочвацца.

· На Новы год першаму пакупніку аддаюць тавар па нізкай цане, прытрымліваючыся прыказкі "дарагі пачын".

· Першая нага ў Новы год не павінна ўваходзіць у хату з пустымі рукамі.

· Калі ў Новы год устанеш позна, будзеш уставаць позна ўвесь год, надзенеш што-небудзь новае, будзе шмат абновы.

· У ноч, напярэдадні Новага года, вада ў крыніцах набывае цудадзейную сілу, жыватворна ўплываючы на чалавека. Той, каму першаму ўдасца зняць "вяршкі" крыніцы, будзе шчаслівы увесь год.

· Той хто есць квашаную (кіслую) капусту на Новы год, будзе ўвесь год здаровым.

· Хто з хатніх жыхароў у першы дзень новага года апярэдзіць астатніх, прынясе са студні вады і памыецца – на працягу года будзе рухавы і бадзёры.

## У Албаніі

· У шматлікіх месцах Албаніі на Новы год пяклі пірог "бюрск" у каторы запякалі манету. Той, каму на сямейнай навагодняй трапезе дастаецца кусок бюрска з манетаю, лічыўся шчаслівым. Лічылі што ў наступаючым годзе яго чакае удача.

· Хто лічыць грошы ў першы дзень года, лічыць іх увесь год.

· Чым болей грошай на Новы год у хаці тым іх болей будзе у годзе.

· За некалькі хвілін да 12 гадзін навагодняга вечара, хто-небудзь з сям'і заціснуўшы ў кулаку грошы становіцца на стол ці табурэтку і з апошнім боем гадзінніка дзыгае на падлогу. Гэта называецца ўскочыць у новы год з грашыма.

· Мыючыся раніцай Новага года замест мыла націралі рукі манетамі, каб яны не пераводзіліся ў руках увесь год.

· Верылі, што дзіця нарадзіўшаяся ў Новы год адарона "другім зрокам", ці сілай бачыць рэчы, якія не бачыць просты чалавек.

· Народжанаму ў гэты дзень, людзі давяралі суд весці.

## У Францыі

· Французскія фермеры ў навагоднюю ноч спускаюцца ў скляпы і тры разы стукаюць у кожную бочку з віном. Гэта адпавядае старажытнаму паданню, нібы ў навагоднюю ноч у бочкі усяляюцца духі якіх трэба вітаць каб не пакрыўдзіцца.

· Дзяўчына, якая першай у новым годзе возьме ваду з рэчкі ці крыніцы, у наступаючым годзе удачна выйдзе замуж.

· Дзяўчаты ў першы дзень новага года апраналіся ва ўсё новае і на працягу дня некалькі разоў пераапраналіся, каб заўсёды былі абновы.

· Варажба па аўсяных абрадавых аладках. Кожны пускаў сваю аладку каціцца ўніз па схілу ўзгорка і калі яна разломвалася, падала не адкаціўшыся далёка, гэта прадказвала няшчасце ў наступаючым годзе для яе ўладальніка.

· Наліваюць у лыжкі ваду па колькасці сямейнікаў і выстаўляюць іх на мароз. Калі ў чыёй небудзь лыжкы вада замерзне ямкай, той памрэ ў гэтым годзе, а ў чыей лыжкы вада замерзне ўзгоркам, той пражыве вельмі доўга.

· Для таго, каб даведацца – суджаны ці суджаная вялікага ці малога росту, дык пад Новы год трэба ісці ў хлеў з дровамі і адразу ўзяць палена. Калі вялікае, то вялікага росту і наадварот.

· Ускідвалі да столі салому, колькі саломін да столі прыліпне, столькі будзе людзей ў сям'і куды дачку аддадуць замуж.

· Мятуць пад сталом на Новы год, калі ёсць зерне хлебнае – да замужжа.

· Напярэдадні Новага года ставілі стол, на яго клалі 10-15 шапак ці талерак, пад якія хавалі розныя рэчы: срэбныя манеты, грэбені, хлеб, пярсцёнак і інш. Хлопцу які жадаў спазнаць якая ў яго будзе жонка завязвалі вочы і паварочвалі яго тварам у супрацьлеглы бок ад стала. За гэты час рэчы пад шапкамі мянялі. Затым хлопца падводзілі да стала і ён падымаў шапку (талерку), яму развязвалі вочы і давалі паглядзець на рэч. Калі гэта быў грэбень – дык жонка будзе кемлівая, грошы – багатая, перац – шпаркая, шчотка – старая, люстэрка – ганарлівая, пучок базіліку – прыгожая але бедная, вугаль – цёмная як цыганка, хлеб – добрая, пучок валос – укаханая, соль – будзе доўга жыць, зерне каноплі – будзе мець шмат дзяцей. Так кожны варожыць тройчы.

## У Беларусі, Украіне, Расіі

· Каб убачыць будучага кавалера, дзяўчына павінна залезці на гару хаты пад Новы год і абабегчы тры разы комін. Многія баяліся гэтай варажбы, так як думалі, што можа паказацца д'ябал прыбраны мужчынам. Для таго, каб пазбегнуць сустрэчы з ім, дзяўчына распраналася на гарышчы, мылася і тады тройчы абягала комін супраць сонца.

· У Навагоднюю ноч падвешваюць у хляве грэбень. Суджаны ноччу чэшацца і яго пазнаюць па масці пакінутых валос.

· Верылі, што дзяўчына можа ўбачыць свайго суджанага, калі разрэзаўшы яблычка на 9 частак і стоячы перад люстэркам яна з'есць 8 частак, а дзевятую кіне праз левае плячо.

· У Навагоднюю ноч кідалі чаравік (туфель) цераз вароты. Куды носам лежа абутак туды замуж ісці.

· У Навагоднюю ноч кідаюць туфель з ганку хаты да варот. Калі носік акажацца павернутым у бок варот, дзяўчына абавязкова ў наступным годзе пойдзе замуж, а калі ён будзе глядзець на хату, дык давядзецца пачакаць.

· Палю, палю сняжок, дзе мой міленькі, там сабака забрашы.

· Пасля вячэры дзяўчаты ходзяць падслухоўваць пад вокны. Калі Богу моляцца, дык замуж выйдзе ў гэтым годзе тая, якая падслухоўвала.

· Ноччу дзяўчына кладзе руку ў восецевае вакно, калі ніхто не зачэпіць, у дзеўках сядзець, голай рукой пагладзіць – за бедным быць, калматай – за багатым.

· Дзяўчаты станавіліся ў круг і кожная каля сябе сыпала зерне. Потым у сярэдзіну круга пускалі пеўня і певень дзяўбучы зерне прадказваў у якой чарзе дзяўчыны будуць выходзіць замуж.

· Дзяўчыны выпраўляліся ў хлеў і там у цемры хапалі авечак, а калі трапляўся баран, абавязкова суджана быць замужам.

· Бярэцца тры пасудзіны, пад адну кладуць хлеб, пад другую шчотку, пад трэцюю пярсцёнак. Адной з прысутных дзяўчат завязваюць вочы, яна павінна падыйсці да адной з пасудзін і ўзяць з пад яе пакладзеную туды рэч. Калі выпадзе пасудзіна пад якой знаходзіцца пярсцёнак, то ёй давядзецца выйсці замуж за малайца, калі з хлебам – выйдзе замуж за багатага, калі шчотка – будзе чакаць суджанага доўга.

*Раман Рамашка, г. Горадня.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/



*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 26. 12. 2001 г.
Наклад 3800 асобнікаў. Замова № 2805.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 418 руб., 3 мес.- 1254 руб.
*Кошт у розніцу:* 100 руб.